# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

**Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:** Вільня, Біскупская вул. 12. Рэдакцыя адчынена: 12—2 штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым прозьвішчам аўтора і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

**Цана кожнага нумару 30 м.** Падпіска на 3 месяцы каштуе 400 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: перад тэкстам 150 мк., сярод тэксту 200 мк. і на апошняй страніцы 70 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт.

Год I. Вільня. Пятніца, 16-га сьнежня 1921 г. № 23.

## Поўная аднабокасьць.

*„Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*Ні разьбіць, ні спыніць, ні стрымаць!“.*

**Максім Багдановіч.**

Шмат чаго творыцца ў нас апошнімі днямі. Шмат гоману паднята палякамі вакол вырашэньня склі́каньнем Сойму лёсу Віленшчыны, яную рэдка можа хто з палякоў шчыра ня хоча саўсім далучыць да Польшчы.

Пераважная большасьць польскага грамадзянства, гэта значная надбудоўка над вялізнаю няпольскаю шэраю масаю насяленьня краю, схіляецца да таго, каб сядзеў у Вільні звычайны агульна-польскі ваявода, гэтак сама, як дзе-нібудзь у Кракаве, ці, не раўнуючы навет, у Навагрудку з тымі самымі правамі і адміністрацыйнымі функцыямі ў адносінах да насяленьня.

Жыцьцё, аднак, дае сябе чуць і выразна паказвае, што імпэрыялістычна-нацыяналістычныя імкненьні гордае сваею культураю наднароднае надбудоўкі нашага краю радзіліся позна і аддаюць духам прайшоўшых сталецьцяў.

Сталіцы старажытнага Беларуска-Літоўскага Гаспадарства—Вільні можа й пагражае на нейкі час палажэньне зрабіцца ваяводзкім цэнтрам польскае провінцыі. Але-ж старадаўняя літоўска-беларуская эмблема „Пагоня“, паднятая абодвымі народамі да жыцьця з часовае прыкрае летаргіі, ня дасца замяніць сябе назаўсёды чым іншым.

Яна найясьней сьведчыць аб штучнасьці ў Віленшчыне ўсялякай польскасьці. Гісторыя не на старане польскага элемэнту нашага краю, хоць элемэнт гэты з тае, ці іншае прычыны зацёр сабою даўнейшых гаспадароў краю і цяпер самастойна, адзін маніцца пастанаўляць аб лёсе ўсяго насяленьня ў спроектованым Сойме штучнае Сярэдня-Літоўскае дзяржавы.

Мечам высечана гэта арыгінальная дзяржава і ў сіле меча ўвесь сэнс яе істнаваньня.

Аднабокае ўрадаваньне ў Сярэдняй Ліцьве палякоў няўхільна прывяло да аднабокасьці і ў далейшым.

Грамадзкія арганізацыі нацыянальнасьцяў, што не пануюць у Сярэдняй Ліцьве, ўсе выказаліся проці дачыненьня іх да выбараў у віленскі Сойм, які склікаецца неяк вельмі пасьпешна аднабокаю ўладаю і ня мае перад сабою ясна пастаўленай задачы.

Беларусы, Ліцьвіны і Жыды голасам сваіх нацыянальных арганізацыяў адмаўляюццаісьці ў Сойм. А яны-ж тут ня пасынкі. Яны гэткія самыя грамадзяне, як і тыя, хто над імі пануе. Яны-ж пэўна толькі часова адсунуты ад справаў у тумане ўсіх гэтых тутэйшых часовасьцяў і няроўнасьці.

Ці-ж народы гэтыя—малыя дзеці, каб нехта за іх рашаў іх лёс, апякаваўся над імі, адважыўся гаварыць і дзеяць ад іх імя?

Не! Ня тыя часы ўжо, каб было гэтак.

Ня хочам мы сказаць, каб польскі элемэнт у Ліцьве і Беларусі, які зьяўляецца насеньнем гістарычнай слабасьці колішняга Літоўска-Беларускага гаспадарства, быў чым-нібудзь абмяжоўваны ў сваіх грамадзянскіх правох, разумеецца, ў тым выпадку, калі элемэнт гэты не хварэе тою захопнаю панскаю хваробаю, якая ў мінулым давяла і Літву з Беларусьсю і самую Польшчу да дзікай няволі і заняпаду.

Але-ж ня можна пагадзіцца з прывілейным палажэньнем польскагага па духу насяленьня ў краі, дзе й нехта іншы ёсьць і будзе, жыве і ня зьбіраецца паміраць.

Мусі гэта прывілейнае палажэньне палякоў на ўсіх этнографічна няпольскіх землях і Сярэдняй Літвы і Рэчыпаспалітай занадта ўжо б'е ў вочы, калі навет гэткі шчыры польскі грамадзянін, як, выкінуты даўно ўжо за межы шчыра-беларускага руху, п. П. Аляксюк на „сваім“ зьезьдзе гэтымі днямі змушаны быў аж двойчы крыкнуць па адрэсе крэсовых польскіх адміністратараў: „далоў рукі“.

Праўда, ягомасьць гэты выказаў наіўную веру, быццам польскі народ разам з ім гэтыя словы некалі скажа.

А ці-ж не сялянскі міністар Вітос быў на чале польскага ўраду тады, калі пісаўся Рыскі дагавор?

Ці ня вуснамі Дашынскага польскі работнік цынічна сказаў беларусам тае самае, што й п. Аляксюк орыентацыі: „Мы падзялілі вас, бо былі дужэйшыя?“

Чад польскага імпэрыялізму з палацаў непамёршых яшчэ магнатаў праціснуўся ня толькі ў кабінэты сялянскіх ды соцыялістычных польскіх міністраў, ён ахапіў больш-менш шырокія народныя масы, а ці надоўга ахапіў пакажа будучына. Сярод гэтага чаду беларускаму грамадзянству больш да твару падаць ахвяраю, чымся захварэць хоць на момэнт небясьпечнаю для беларускіх нацыянальных ідэалаў хваробаю.

Пакуль захопныя жаданьні Польшчы ня выветрацца, яна будзе жыць вялікімі лёзунгамі і зусім адваротнымі ім падзеямі.

Ап'янеўшае ад шчасьця свае ўласнае нацыянальнае волі польскае насяленьне запомніла аб патрэбе гэткай самай волі і для іншых. Аднабокі пагляд яго на самога сябе, аднабокі пагляд і на іншых.

І калі адно польскае насяленьне адважыцца рашаць лёс цэлага краю бяз поўнага голасу насяленьня яго, дык аднабокасьць гэта пяройдзе ўсялякую меру ды стане поўнаю, даведзенаю да канца.



## † Кс. Аляксандар Астрамовіч.

(*Кароткі ўспамін*).

Да Вільні дайшла сумная вестка з Петраграду аб тым, што адным з нашых сьветлых змаганьнікаў за лепшую долю свайго народу зрабілася менш.

Ня хочацца верыць, што памёр сапраўды наш не стары яшчэ лірычны пясьняр Андрэй Зязюля (праўдзівае імя ксёндз Аляксандар Астрамовіч).

Мне давялося першы раз спаткацца й пазнаёміцца з ксяндзом Астрамовічам у Менску ў часе нямецкай окупацыі. Зайшоўшы аднаго разу ў кватэру „Беларускага Народнага Прадстаўніцтва“ на Серпухаўскай вуліцы і прывітаўшыся з тымі, каго ўжо знаў, я не пасьпеў заўважыць добра за столікам незнаёмую мне асобу, як быў зараз-жа ёй адрэкамэндованы дзедам нашаніўскіх пісьменьнікаў Аляксандрам Уласавым.

Я ня мог, як належыць, разглядзець духоўніцкай адзежы кс. Астрамовіча і падумаў проста, што ён які-небудзь вясковы вучыцель. Просты, але энэргічны нейкі выраз яго твару, вясёлы, мала падобны на духоўніцкі, гумар і вечная лёгкая ўсьмешка пры гэткай-жа лёгкай гутарцы выказвалі нязвычайную нейкую несьмяротную моладасьць, вялікую здольнасьць і энэргію.

Якое-ж было мае зьдзіўленьне, калі гэты адрэкамандованы мне п. Уласавым поэт Зязюля выйшаў з-за стала і я праканаўся, што гэта ксёндз. Мы разгаварыліся зусім не на поэтыцкія тэмы і я проста спытаўся ў кс. Астрамовіча, дзе ён служыў тады і што там чуваць.

Служыў айцец Аляксандар тады ў Магілёўшчыне і адказаў мне, што там наш рух расьце й мацнее.

Другі раз на яшчэ менш кароткі час мы сустрэліся ў тым самым Менску, ня помню толькі дзе, але добра памятаю, як. а. Аляксандар сваім звычайным лёгкім тонам дапытваўся ў кс. Гадлеўскага, чаму гэта ня выходзіць «Крупіса», выдаваць якую кс. Гадлеўскі тады ўзяўся.

Больш мне не давялося спаткацца і бліжэй асабіста пазнаёміцца з айцом Аляксандрам.

Ня хочацца верыць, што наша кароценькае другое спатканьне з поэтам Зязюляй было й апошнім.

Страшэнны жаль ахапляе душу, калі ў галаву прыходзіць думка, што гэткі пясьняр наш дарагі, як Зязюля ўжо скончыў свае песьні страшэнна рана.

Можа на чужой зямлі й памёр ён і чужая зямля закрыла яго навекі.

Хай будзе яна яму лёгкаю, бо сваю родную зямлю і свой родны народ ён вельмі любіў.

**Краўцоў Макар.**



## Па сьлізкай дарозе.

(*Нотаткі і ўражаньні аб т. зв. „Зьезьдзе прадстаўнікоў Заходняй Беларусі“*).

Бог ведае якімі спосабамі скліканы аляксюкоўскаю „Краёваю Сувязьзю“ беларускі зьезд у Вільні, што адбыўся 11—12 гэтага сьнежня, быў ахрышчаны моцнаю назваю „Зьезд прадстаўнікоў Заходняй Беларусі“.

Рэч аднак ня ў тым, як зваўся гэты зьезд тымі, хто яго склікаў, ня ў тым навет з каго зьезд складаўся і якім спосабам быў сабраны, — ў гэтым цяпер раскапацца трудна, — а ў тым уся цікавасьць зьезду, што праходзіў ён так, як яшчэ пэўна не здаралася ні на якіх, ня толькі беларускіх, сходах.

Трэба прызнаць, што п. Аляксюк, склікаўшы свой зьезд, застаўся верным сабе да канца.

Ніякай опозыцыі на зьезьдзе ня было, калі ня лічыць выпадкаў некаторага шуму пры затыканьні рота сілаю тым, хто думае йначай ды расколу ў прэзыдыуме зьезду пад самы канец яго.

Адзін з студэнтаў грам. Абрамовіч цалюсенькія два дні гэтага зьезду дамагаўся слова і апошні раз прасіў пазваленьня гаварыць ужо тады, калі ўсё патрэбнае п. Аляксюку адбылося, ўсе рэзалюцыі прайшлі, тады, калі падняўся старшыня зьезду, сам п. Аляксюк, каб абвясьціць зьезд закрытым. І тады навет студэнт Абрамовіч не адтрымаў права гаварыць.

Калі прыватна, пасьля закрыцьця зьезду Абрамовіч спытаўся ў Аляксюка, нашто-ж яму быў выданы білет на зьезд, калі ён за два дні ня мог дабіцца слова, дык адказ быў просты, што Абрамовіч усё неяк ня ў час прасіў слова.

Нейкія арыгінальныя два суб'екты ў буфэце радзіліся, каб студэнта Пяткевіча арыштаваць і адаслаць у дэфэнзыву.

Сябар прэзыдыуму Віленскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту грамадзянін Пракулевіч, які йшоў на другі дзень Зьезду мусі з прывітаньнем ад Камітэту, быў пабіты пры ўходзе ў будынак пасяджэньняў Зьезду.

Аднаго з студэнтаў гэтак сама нейкія суб'екты, што зваліся тэхнічным пэрсоналем, вывялі з залі ў пярэдні пакой невядома за што і там, карыстаючы з таго, што нікога ня было, пабілі.

Вядомы абаронца сялянскага люду, мужыцкі сын ксёндз Адам Станкевіч быў

перад пачаткам Зьезду яшчэ ў першы дзень выштурханы за дзьверы, ня гледзячы на тое, што меў пры сабе запрашэньне на зьезд і мандат за подпісам „самога“ Аляксюка.

А найцікавей тое, што ў рэзалюцыі па дакладзе культурна-прасьветнай камісіі пастаноўлена заклікаць на пасаду кіраўніка гэтай камісіі ў „Краёвай Сувязі“ якраз таго самага Сымона Рак-Міхайлоўскага, які ня быў дапушчаны ў залю пасяджэньняў зьезду дзеля прывітаньня ад соцыяль-дэмократычнае беларускае партыі!?

Старшыня Беларускага Музыкальна-Драматычнага Гуртка грамадзянін Валэйша гэтак сама ня быў дапушчаны на Зьезд.

Гэткім чынам ніхто з тых, хто сьлепа ня прэ ў Польшчу, альбо не пайшлі на зьезд, сабраны „Краёвай Сувязьзю“, альбо калі й прабавалі пацікавіцца ім, дык варочаліся дамоў дзе-хто навет з памятамі бакамі.

Ясна, што ачысьціўшы гэтак Зьезд ад варожага да сябе элемэнту і стэрорызаваўшы „мужычка“ суб'ектамі, вымятаўшымі гэты элемэнт са Зьезду, п. Аляксюк свабодна запанаваў на Зьезьдзе, як старшыня і праводзіў, амаль што бяз ніякай опозыцыі, ўсе свае пляны.

Характарным зьяўляецца, што на гэтым „беларускім“ зьезьдзе адзін толькі п. Сьвеховскі, што вітаў зьезд ад Польскае Народнае Партыі Віленскай зямлі (P. S. L.), будучы сам ковенцам, спамянуў неяк „o przyszłej niepodległej Białorusi“. Аляксюк і ўсе яго блізкія гаварылі аб вольнай, а іншы раз нясьмела — непадзельнай Беларусі і г. д.

Яшчэ болей цікава тое, што прадстаўнік „Gazety Ludowej“ гаварыў аб тутэйшай фэдэрацыйнай народнай рэспубліцы, у той час, як аляксюкоўскі зьезд сьледам за сваім павадыром галасіў аб прылучэньні да Польшчы.

Нейкі селянін, ці засьцянковы шляхціч, што вітаў зьезд ад зьезду польскае партыі „Odrodzenie“ проста сказаў: „мы нікому не павінны аддаваць свайго краю“...

Сярод духаты гэткае небеларускае атмосфэры, створанай павадырамі зьезду хацелася нейкага прабліску, хацелася пачуць простыя расказы з месцаў аб нялюдзкім зьдзеку там над усім тым, што беларускае. Сам Аляксюк, здавалася-б, задаў такі тон на гэту тэму, калі адчыняючы вялікай патэтычнай прамовай свой зьезд, не абмінуў адміністратарскіх зьдзекаў над сялянствам нашым і выказаў наіўную веру, быццам польскі народ разам з нашым скажа гэтым адміністратарам: „далоў рукі“.

Навет гэткае задаваньне тону старшынёю не разварушыла да прамоваў шэрую сялянскую масу «дэлегатаў», якія проста прызнаюцца ў прыватнай гутарцы, што можна шмат сказаць, але-ж трэба памятаць і аб тым, што дамоў вяртацца трэба, а там спаткацца з дэфэнзывай, калі ня так скажаш.

Даклады з месцаў пачаліся і вельмі хутка скончыліся на другі й апошні дзень зьезду. Выступалі з прамовамі найбольш тыя, хто ўмее хітра гаварыць. Дакладчыкаў з месц было ня шмат і некаторыя месцы іх прамоваў досіць характарныя.

Дакладчыкі выступалі ў гэткім парадку:

Д-р Паўлюкевіч ад „Навагрудчызны“. Заяўляе, што на мясцох адміністрацыяй польскай вялася дрэнная палітыка зьдзеку і біцьця жандарамі нашага сялянства. „Мы дакажам сваім павядзеньнем,—кажа п. Паўлюкевіч,—што мы будзем шчырымі грамадзянамі польскай дзяржавы“. Далей аратар агаварваецца, што гэтым ён не адмаўляецца ад сваіх нацыянальных правоў. Зьезд павінен патрэбаваць ад польскага ўраду зьнішчэньня зьдзеку на „kresach“. А гэта, па думцы аратара, дасьць магчымасьць вольных выбараў у... варшаўскі сойм.

Студэнт Абрамовіч бярэ слова да парадку вядзеньня сходу, але пачынае гаварыць датычна прамовы д-ра Паўлюкевіча. Старшыня Аляксюк прыводзіць Абрамовіча да парадку. З месцаў чутны галасы даць аратару магчымасьць свабодна выказацца. Абрамовіч прабуе гаварыць, але старшыня з першых двох словаў перабівае яго, вымагаючы гаварыць да парадку вядзеньня сабраньня. Паднімаецца шум і старшыня пазбаўляе Абрамовіча слова.

Корсак ад Вялейшчыны заяўляе аб ліквідаваньні там беларускіх школ. Вучыцялі, скончыўшыя расейскія вучыцельскія сэмінарыі, пасылаюцца інспэктарам ў Кракаў з мэтаю падгатаваць іх для працы ў польскіх школах.

Махавенка ад Несьвіжа заяўляе, што насяленьне застаецца зусім бяз школ і дзеці застаюцца без адукацыі. Школы беларускія забараняюцца. Стараста Чарноцкі глядзіць на беларусаў, як на быдла. У цэлым Несьвіскім павеце няма ніводнае беларускае школы. Дэлегат хоча, каб гэта ведама было ў Варшаве.

Сьцяпура ад Слонімскага павету заяўляе, што пачынаючы з 1919 г. і да нашых дзён ідзе сыстэматычнае змаганьне з беларускімі школамі. У цэлым павеце няма ніводнае ўрадовае беларускае школы. Ёсьць школы праватныя і то бяз ведама школьнага інспэктара. Аратар пераходзіць да мэтаў самога зьезду. Зьезд не вядзецца зусім вольна, прадстаўнікі студэнтаў учора...

На гэтым месцы старшыня абрывае аратара, трэбуючы гаварыць аб балячках на месцы.

Абрамчык селянін ад Радашкоўскай воласьці заяўляе, што сяляне сьціснуты панамі, ў іх пазабіралі каровы. Жыць цяжка.

Ганіч, Краснасельск вол. заяўляе, што калі прыходзіць літэратура польская, дык яе прапушчаюць вольна, а беларускай літэратуры ў вёскі не дапушчаюць.

Прадстаўнік „Odrodzenia“ ломанаю польскаю моваю гаворыць, што мы нікому не павінны свой край аддаваць, а самі яго збудаваць павінны Школы павінны вольнымі быць для ўсіх народнасьцяў. Лясы трэба зрабіць дзяржаўнымі, абшары зямлі не павінны ляжаць а карысьць прыносіць нашай бацькаўшчыне. Мы павінны змагацца з тымі, хто хоча нас прыцісnуць. У сойм трэба выбіраць і інтэлігэнтаў, але большасьць павінна быць сялян.

Пяткевіч — студэнт, зьвяртаецца, проста да сходу з заявай аб тым, што студэнтам не даюць слова, паднімаецца шум. Аднаго студэнта выводзяць з залі.

Прадстаўнік «Gazety Ludowej» вітае Зьезд папольску ад «Odrodzenia», якое борацца за фэдэрацыйную народную рэспубліку тутэйшую.

Саўчэнка—Несьвіжі пав. У вёсцы Лявонавічах грамадзяне, пастанавілі падаць прашэньне аб прыватнай школе бо ўрадовай адчыніць нельга. Калі інспэктарцы было падана прашэньне, дык яна заявіла, што школа ўжо будзе. Вучыцелем назначаны той пан, у доме якога месьціцца школьны інспэктарат. Паны, вярнуўшыся ў двары, прадалі сенажаці сялянам, перагнаўшы сена на маркі і сядзяць сабе спакойна. А цяпер ваенная ўлады рэквізуюць купленае сена ў сялян за цану напалову ніжэйшую, як самі сяляне на пні плацілі за сена. Падводную павіннасьць адбываюць не паны, а сяляне.

Хаўстовіч—Лунінецкі пав. Багацьце краю—лясы не павінны прадавацца панамі, пакуль не праведзена зямельная рэформа.

Пяткевіч — прадстаўнік студэнтаў Віленскага унівэрсытэту. Жыцьцё ў унівэрсытэце ідзе спакойна, ня так як напр. у унівэрсытэце львоўскім паміж палякамі і украінцамі. Хаця ў некаторым сэнсе унівэрсытэцкая ўлада—сэнат адносіцца да студэнтаў беларусаў тэндэнцйна. Статут беларускага саюзу студэнтаў доўга ляжаў у гэтым сэнаце, пакуль быў зацьверджаны.

Касьпярэвіч — Ашмян. пав. Ўсе беларусы Ашмяншчыны хацелі-б мець свае родныя школы на сваёй беларускай мове, за якую раней нас білі.

Цяўлоўскі ад беспартыйнага руху закардоннай Беларусі. Зьезд сабраўся, каб падаць свой вялікі голас на ўсю нашу бацькаўшчыну Беларусь. Зьезд не павінен абмінуць патрэбаў тых, хто знаходзіцца за межамі Беларусі, падзеленай злою воляю. Усюды павінны пачуць, што нам баліць, калі нас разрэзваюць. Канаву выкапаную ў Рызе чужымі рукамі, паглыбіць хочуць родныя сыны нашай Бацькаўшчыны. Мы яшчэ не арганізаваліся, каб падаць каму-небудзь руку.

Сел. Абрамчык. Мы сем разоў мелі гасьцей адсюль і адтуль. Госьці забіралі ў нас і жывёлу і сыноў з падводамі, якія ганяліся аж пад Варшаву і адтуль праганяліся, высьцебаныя пугаю. Прышлі бальшавікі і гэтак сама білі нас, завучы таварышамі. Мы прыехалі ў Вільню, каб убачыць, што ёсьць наша матка Беларусь. А нам кажуць, што яе трэба паглядзець у Варшаве; у Варшаву нельга паслаць маладых, бо яны будуць прыглядацца да паненак. Трэба паслаць старых хай яны убачылі-б, што есьць наша маці Беларусь хаця-бы й замкнёная дзе ў хлеўчыку.

Умястоўскі, не як дэлегат, а як чалавек, які павандраваў па провінцыі. Жыцьцё там цяжкае і брыдкае. Віною ўсяму вайна і вясковая цемната. Школаў у вёсках не ўдаецца іншы раз адчыніць ня толькі беларускіх, але й польскіх. Нядоля наша не ад таго што мы беларусы, а ад таго, што мы цёмныя. Ратунку трэба шукаць ня ў розных урадовых дапамогах, а ў нас саміх. Селяніну жыць цяжка не таму, што ён беларус, а таму што ён селянін. Яго душыць вураднік, які мае за сабою. вялікую абшарніцкую сілу. У сойм трэба выбіраць людзей пэўных, якія стаяць на грунце інтарэсаў сялянскае масы.

Пупка—старшыня „Краёвае Сувязі“. Мы павінны шанаваць усіх працаўнікоў беларускіх, якія ідуць шляхам чыстага дэмократызму. Мы павінны тут выказаць свае думкі ўва ўсім чыста масштабе. Мы ня можам ісьці з тымі, хто замест школаў насаджвае ў нас корчмы. Настане некалі час, што ўсе часткі Бацькаўшчыны ізноў зьлепяцца ў адно. Мы павінны дабіцца, каб быў спынены безадказны польскі чыноўнік на нашай зямлі, а месца яго, каб было занята праўдзівымі сынамі нашае зямлі.

Сасноўскі гаворыць прамову перад дакладамі камісіяў, што Зьезд павінен

# СТАСЯ.

(Глядзі № 21).

* * *

Вярнуўшыся да сябе я зараз-жа расьцягнуўся на сваім падарожным ложку і, змардаваны дарогай і перажытымі за дзень уражаньнямі, заснуў глыбокім, моцным сном, з каторага мяне разбудзіў голас Ігната.

— Ваша благародзіе, а, ваша благародзіе! ўставайце, прачнецеся!—крычаў Ігнат.

Ен скінуў з мяне коўдра і нахіліўшыся нада мною з перапуджаным тварам і з канчаром сьвечкі ў руцэ турзаў мяне неміласэрна.

— Чаго ты, што сталася? курды?

— Ваша б-родзіе, нешта дрэннае робіцца з нашай госьцяй.

— Што дрэннае?—і спагнаўшы астаткі сну я пачаў усьцягаць на сябе вопратку.

— Страляюць,—ваша б-родзіе; сплю і чую: бах—і нешта зазьвінела...

— Хто страляе, кажы толкам!

Але сухі гук стрэлу і звон быццам разьбітага шкла, адказалі мне заместа Ігната.

— О, чуеце,—шаптаў спалоханы Ігнат.

Было ясна, што страляюць у пакоіку Стасі. Адным скокам я быў ужо ў калідоры. Там было ціха і цёмна. Праз малое ваконца над дзьвярыма, вядучымі да яе пакою, вылівалася слабая палоска сьвету. Стася відаць ня спала.

Я толькі ўзяўся за клямку, каб адчыніць дзьверы, калі зноў гракнуў стрэл і над маей галавою пасыпаліся разьбітыя шклы. Я піхнуў дзьверы, яны разам адчыніліся і я затрымаўся на парозе, скамянеўшы з падзіву і страху. У кутку малога пакоіку, як дзьве кроплі вады, падобнага да майго, на ложку, падабраўшы пад сябе ногі, сідзела Стася з распушчанымі валасамі, каторыя буйнымі хвалямі сплывалі на плечы і грудзі яе, адбіваючыся ад начнога каптаніка. На стале, што стаяў каля ложка, гарэла сьвечка, устаўленая ў падарожны ліхтарык, каля яе ляжалі, раскіданыя па століку, цукеркі і паперкі ад іх, а бліжэй да Стасі стаяла бутэлька і сярэбраная чарка. Каля ложка ляжалі раскіданыя ў непарадку рэчы і вопратка Стасі. Яна трымала рэвальвэр і з увагай, выцягнуўшы руку цэлілася з яго ў кірунку мяне. Не пасьпеў я вокам міргнуць, калі зноў гракнул стрэл і куля, прасьвісьцеўшы недзе блізка каля мае галавы, трахнула ззаду мяне ў гліняную сьценку калідору. Адным скокам я быў пры Стасі і вырваў з рук яе рэвальвэр.

— Стася, што з табою, ты страляла ў мяне?

— Што ты, што ты! Там бачыш чарцянё сядзіць і блішчыць да мяне сваім агнявым вокам, да яго і страляла,—пачала Стася нейкім заблутаным языком.

— Я да яго р-раз—ён сядзіць, я да яго р-раз—ён сядзіць, вылупіўшы вока і такі мусіць застрэліла, бо няма,—і Стася з увагай глянула на ваконца над дзьвярыма, ў астатках разбітага шкла, каторага слаба адбіваўся водблеск сьвечкі. З губаў Стасі нясло пахам віна; выпітая да паловы бутэлька каняку і раскіданыя цукеркі дасказалі рэшту: Стася была п'яная.

Дык вось чаму яна не хацела гаварыць аб сабе; бедная, бедная Стася!

— Дальбуг застрэліла, — зноў пачала Стася паглядаючы на ваконца і усьмяхнулася нейкім вінаватым бязглуздым сьмехам.

— Стася, што-ж ты гэта так ачумела, прыйдзі да сябе. Туткі чарцей няма.

Я ўзяў Стасю за рукі і патрос імі, каб адвярнуць яе ўвагу ад ваконца, на каторае яна ўвесь час прыглядалася, шукаючы чорта.

— Стася—гэта я—Сьцяпан—ачухайся.

Стася глянула на мяне і пазнала.

— А, гэта ты, Сьцяпан! добра, што прыйшоў, бо гэныя чэрці не даюць мне супакою.

— Глянь, глянь, вось зноў выглядае, зноў блішчыць вачыма. Сьцёпа ратуй мяне, ратуй,—і Стася абнімала мяне рукамі і тулілася, як малое дзіця, і сэрца малатком стукала ў яе грудзёх, і яна ўся дрыжала, нібы ў гарачцы.

— Туткі няма чарцей, Стася, ты ня бойся, глядзі: туткі і крыжык ёсьць на сьцяне, чэрці яго баяцца.

Стася аглянулася, перастала дрыжаць, але ўвесь час пазірала на вокны. Відаць прамова мая не пракanала яе. Я зразумеў, што трэба йначай пракаnаць яе.

— Дык што, кажу, адно толькі чарцянё і было, а ты-ж яго застрэліла: во глянь! І падышоўшы да дзьвярэй я падняў з зямлі нейкую сьцірку і паказаў яе Стасі.—

Во, як яго куля твая скруціла.

Стася глянула і ўсьцешылася.

— Ай, ай, запраўды забіла—які ён цяпер сьмешны! А то сядзіць і міргае. А цяпер няма чарцей, праўда, Сьцёпа, бо адзін толькі і быў.

— Вядома, што няма.

Стася яшчэ раз глянула на ваконца, супакоілася і ажывілася.

— Вось, як добра, што ты прыйшоў, прынамсі вып'ем па чарцы, а то так адной маркотна.

І кажучы гэта, Стася, разьліваючы па стале, напоўніла чарку і падсунула мне.

— На, пі. Каняк файны, першы сорт, „Fin Šampań“ з трома зоркамі.

— А мо' ня варта, Стася?

— Ну, Сьцёпа, пі, ня дуры, кажу табе—першы сорт.

Я выпіў.

— А цяпер я,—і Стася зноў, разьліваючы, наліла чарку, разам выпіла яе да дна і закусіла цукеркаю.

— А што, праўда, файны каняк? Гэта мне князь падараваў яго.

— Які князь, што ты броіш, Стася?

— Які князь? Вось такі й князь! Ты думаеш, Сьцёпа, што калі я выпіла, дык ужо нічога й не разумею. Я добра ўсё ведаю, і разумею. Вось я ведаю, што ты Сьцёпа, а я Стася, а хто я, ты ня ведаеш. А я яшчэ ведаю... шмат ведаю, але не скажу! Ведаю, чаму Сьцёпа цікавіцца князем, ведаю, што Сьцёпе ня соладка жывецца. Так, Сьцёпачка, Стасіна жыцьцё зламаў, і свайго не збудаваў.

Усё гэта Стася гаварыла спакойна, паволі, быццам выпітая чарка ацьвярэзіла яе. Седзячы на ложку яна трымала мяне за далоні, ў тахту словам сваім хістала імі і з задорам адкінуўшы назад галаву, ківала ёю, быццам патурала словам сваім. Ямачкі на шчочках яе углыбіліся, на губах павісла раскошная усьмешка. Неапісальны чар моладасьці і красы веяў ад яе. Якія мукі я цярпеў, гледзячы на

chodniej Białorusi», паміж іншым піша, што: «прамаўлялі прадстаўнікі беларускай моладзі, вучыцельства, прэсы і іншыя»...

Усё гэта так, але не саўсім. Што да прамовы прадстаўніка моладзі аднаго з студэнтаў на гэтым зьезьдзе, дык „Rzeczpospolita“ ня хоча дагаварыць таго, што студэнт быў неаднакроць перарваны старшынёю зьезду п. Аляксюком, так і не сказаўшы таго, што думае аб зьезьдзе беларуская моладзь. Ад вучыцельства вітаў зьезд нехта Рудзь, але-ж ён выразна сказаў: „ад безработнага вучыцельства Вялейскага павету“..

А вось з вітаньнем ад прэсы, якое рабіў п. Нялепка, выйшла поўнае непаразуменьне, бо гэты ягомасьць загнуў вельмі хітрую фразу, што ён выступае ад „дарубчыцы яму прэсы“, не сказаўшы навет ад якой—беларускай, ці іншай.

Ці ня выходзіць, гэткім чынам, вітаньне ад прэсы (?) зьезду аляксюкоўскіх краёўцаў паказаным у павялічальным люстры?

# Беларусь пад Маскоўшчынай.

(*Па ведамасьцях менскіх газэт*).

## Русіфікатары.

Віцебская паштова-тэлеграфная кантора адмовілася прыняць афіцыяльную тэлеграму ад Віцебскага Архэолёгічнага Інстытуту ў Менск на імя Рэктара Беларускага Унівэрсытэту з прывітаньнем і пажаданьнем Унівэрсытэту творчай працы сярод адраджаючагася беларускага народу.

## Лекцыі беларусазнаўства ў Віцебску.

У Віцебскім Архэолёгічным Інстытуце М. Мялешка пачаў выкладаць беларускую літэратуру і яе гісторыю. 5 верасьня ім быў зроблены першы даклад на тэму „Нараджэньне і разьвіцьцё беларускай літэратуры“ — пры поўнай аудыторыі. Дакладчык прычыны, якія выклікалі да жыцьця беларускую літэратуру, засноўвае на даўнейшай нашай высокай пісьменцасьці, на ідэях філёзофіі XVII в. і на палітычных і гістарычных варунках канца XVIII і пачатку XIX в. в.

Неўзабаве Ан. Шлюбскі ў гэтым-жа Інстытуце мае прачытаць рад дакладаў па беларускай этнографіі.

## З Магілёўшчыны.

Магілёўскі Беларускі культурна-асьветны Гуртох „Асьвета“ прыслаў гарачае прывітаньне першаму Беларускаму Унівэрсытэту ў Менску. („Б. В.“).

# Палітычная хроніка.

*Пятніца, 9 сьнежня.*

— У прайшоўшы аўторак уночы зроблена згода паміж Ірляндыяй і Англіяй, што выклікала вялізны энтузіязм сярод насяленьня ў Дубліне. Адбыліся маніфэстацыі й мітынгі. Варункі згоды павінны быць прызнаны за добрыя парлямэнтамі ангельскім і ірляндзкім. Калі гэта не адбудзецца, дык пытаньне рашаецца рэфэрэндумам усяго ангельскага народу.

— Вашынгтонская конфэрэнцыя ня зробіць важных рашэньняў да канца сьнежня, У Вашынгтон мае прыехаць ангельскі прэм‘ер Лейд-Джордж, які выкажацца па пытаньню аб раззбраеньні.

— У Парыж мае прыехаць ангельскі міністар Кэрзон дзеля непасрэдных перагавораў з францускім прэм‘ерам Брыянам аб франка-турэцкай згодзе.

— Новы польскі пасол у Вене Лясоцкі выяжджае гэтымі днямі на месяца службы,

— У нямецкай часьці Верхняе Сьлезіі арганізованы польскі камітэт.

— У Бэрліне ізноў пачаліся непарадкі; разьбіваліся склады.

*Субота, 10-га сьнежня.*

— Ангельскі парлямэнт склікаецца на 14 сьнежня дзеля зацьвярджэньня дагавору з Ірляндыяй.

— У маскоўскай губэрні дэнацыяналізавана да 1 сьнежня і аддана ў арэнду 235 прамысловых прадпрыемстваў.

— Рыская нямецкая газэта перадае паведамленьне намесьніка савецкага камісара загранічнага гандлю (внешторг), што тры групы нямецкіх банкаў адчынілі савецкаму ўраду крэдыт; гандлёвыя адносіны саветаў з Нямеччынай добра скламіся, але з прычыны паніжэньня нямецкай маркі, нямецкія фірмы трэбуюць заключэньня дагавору на чужаземную валюту.

— Як паведамляюць газэты, прэзыдэнт Паўночна - Амэрыканскіх Злучаных Штатаў Гардынг маецца заявіць, што ў выпадку няўдачнага канца вашынгтонскай конфэрэнцыі аб раззбраеньні Злучаныя Штаты будуць змушаны асыгнаваць на флёту 9 мільярдаў даляраў.

— Гэнэральны сэкрэтар кітайскае дэлегацыі ў Вашынгтоне падаў заяву аб адстаўцы ў знак пратэсту проці неспагадных адносін конфэрэнцыі да Кітайшчыны.

— Амэрыканскі ўрад замервае ецца ў хуткім часе абвясьціць, што зносіны з савецкаю Расеяй магчымы толькі тады, калі будзе кантроль народных прадстаўнікоў над тым, што робіцца ўрадам.

— У Варшаве арыштованы вядомы сьяніцкі дзеяч д-р Пэкэр.

— Польскі ўрад згадзіўся на заключэньне гандлёвага дагавору з бальшавіцкай Расеяй і Украінай.

— Бэльгійскі кароль даручыў стварэньне новага кабінэту міністру фінансаў.

— Амэрыканскія газэты разважаюць над проектам саюзу паміж Злучанымі Штатамі, Англіяй, Японіяй і Францыяй.

— У варшаўскіх дыплёматычных кругох ходзіць дзейка, быццам чэхаславацкі ўрад пасьля перагавораў з бальшавікамі згадзіўся выдаліць за межы Чэхаславакіі расейца Савінкова.

— З Масквы паведамляюць, што там мае быць закладзены камуністычны унівэрсытэт дзеля стварэньня палітычных дзеячоў сярод прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяў.

— Расейская рада народных камісараў пастанавіла пазбавіць права расейскага грамадзянства гэткія катэгорыі асобаў: 1) што прабываюць заграніцаю больш, як 5 гадоў; 2) што выехалі без пазваленьня савецкіх уладаў з Расеі пасьля 1 лістапада 1917 году; 3) што бралі учасьце ў контр-рэвалюцыйных арганізацыях і 4) што не скарысталі з належнага ім права оптацыі.

— Бальшавіцкія дзяржаўныя расходы на 1922 год аблічаны ў суме 6.147,698.000.000 савецкіх рублёў. (Гэта астранамічная лічба чытаецца так: шэсьць більёнаў, сто сорак сем мільярдаў, шэсьцьсот дзевяць дзесят восем мільёнаў).

*Нядзеля, 11 сьнежня.*

— У Вене ходзяць чуткі, што пытаньне аб Усходняй Галіцыі будзе разглядацца вярхоўнаю радаю у студні месяцы.

— У прускім парлямэнце міністар гандлю заявіў, што гаспадарчае палажэньне Нямеччыны крытычнае.

— Бальшавіцкі пасол у Варшаве Карахан выехаў з Бэрліну ў Гданск, адкуль хутка мае вярнуцца на месца службы.

— „Dajli News“ паведамляе, што гэнэрал-губэрнатарам Ірляндыі назначаны гэрцог Іоркскі, другі сын ангельскага караля.

— Аўстрыйскі прэм‘ер Бэтлем сказаў праграмную прамову, падкрэсьліўшы, што бальшавіцкая небясьпека перастала істнаваць. Адменены абмежаваньні грамадзянскіх свабодаў,

— У Варшаве арыштованы пасол Сойму бальшавік Тамаш Домбаль.

— Дэлегацыя польскіх студэн-

# МАСКАЛЁВЫ ДЗЕЦІ.

(Гл. № 22).

Вось, напрыклад, старэйшы Мікалай дык навет і быдла баяўся пасьвіць. Мацей быў адважнейшы й пасьвіў, наймаючыся да суседзяў. А Мікалай дык во якую штуку за адно лета прыдумаў.

Цяпер вось на Котры новы мост пабудованы, а раней, дык стары, хаця й цэлы, быў. Ад няма чаго рабіць Мікалай, калі маленькі быў, выдаўб сабе долатам дзірку ў мосьце, пад мостам, бы ліс, нару выкапаў. Залезе, бывала, пад мост з гострою тычкаю й сядзіць, пазіраючы ўгару ў дзірку, пакуль хто-небудзь не над‘едзе. Калі, бывала, пакажацца конь над дзіркаю, хлапчук тады—штурхіць яму гостраю апоўзіцяю ў трыбух. Конь, ведама, як шалёны падскочыць, а Мікалай ужо тычыну схаваў з дзіры, а сам у нару залез. Азірнецца гаспадар на мост—няма нічога, апрача маленькай дзіркі ды сьцебане ён каня пугаю за тое, што гэткага, быццам, глупства палохаецца. А таму, што праз мост шмат-хто праяжджаў, дык дзейка аб тым, што на ім нейкае ліха коні палохае разышлася хутка па ўсіх ваколічных вёсках. Аднак прычыну конскіх страхаў доўга яшчэ выясьніць не ўдавалася.

Аж неяк раз, не памятаю ўжо хто гэта з суседзяў нашых ехаў церах мост. Мікалай, як і заўсёды штырбануў тычкаю каню ў трыбух, ды на гэты раз ня ўскураў схаваць тычку; так і застрамілася яна ў дзірцы ў мосьце. Убачыўшы гэта, гаспадар пацікавіўся пад мост залезьці і, злавіўшы ў нарэ хлопчыка за сарочку, пацягнуў яго да бацькавай хаты на кару. Аж, як толькі параўняліся яны з крапівою каля плоту, дык раптам хлапчаня расшпіліла сарочку і шмыгіць голае ў крапіву. Плюнуў гаспадар, кінуў сарочку на крапіву сьледам за хлопчыкам ды паехаў сабе да хаты, расказаўшы пасьля ўсім аб гэтым здарэньні й гэткім чынам растлумачыўшы дзівачныя конскія страхі на мосьце. З таго часу ўжо коні не паддзыгалі ўгару, спакойна праходзячы над мастовай дзірачкай.

Дык вось як забаўляўся, хлопча, старэйшы Маскалёў сын Мікалай, ня маючы работы. А пасьля, падросшы, маскалёвы дзеці нараз помставалі за бацькаву крыўду дзядзькам сваім асабліва-ж Тодару.

Тут я скарыстаў з прычыны даць перадыхнуць старому Сымону і пабег перапыніць цялушку, што лезла ў шкоду.

Спыніўшы цялушку ад шкоды, я ізноў пасьпяшыў сесьці каля дзядзькі Сымона, папрасіўшы далей расказаць усё, чаго я ня ведаў яшчэ пра маскалёвых дзяцей.

— Дык вось, хлопча, цябе пэўна яшчэ й на сьвеце ня было, калі Мацей, маскалёў сын гэткую хітрую штуку адмачыў, што не адна толькі наша веска некалькі гадоў разважала над тым, як гэта сьвіньні могуць порце красьці.

Дзядзька Сымон сказаў гэта так жартоўна, што аж сам голасна засьмяяўся і змусіў мяне нявольна зьдзівіцца:

— Як гэта? каб сьвіньні ды порце кралі? Не разумею ніяк! Нашто-ж яно ім?

— Вось тут і штука ўся была, што ніхто ніяк ня мог нічога зразумець, калі здарылася гэта...

— Што? Тое, што сьвіньні нейкае порце пакралі?—нецярпліва перахапіў я.

— Але, але, хлопча,—весела пацьвярдзіў стары Сымон.—Ты, вось яшчэ зусім хлапчак, але падумай вось. Аднае раніцы ў Тодара, маскалёвага брата, на падворку шмат сабралася суседзяў (і я неяк трапіў туды) ды ўсё разглядалі мы, хлопча, што ты падумаў-бы?.. А тое, што па ўсім падворку Тодаравым, як быццам уночы сьвіньні пахадзілі ды сьлядоў напакідалі. Дый то не бяда яшчэ, што сьлядоў напакідалі, а найгорш тое, што порце, якое было Тодарыхай паразьвешвана на плоце, ўсё чысьценька, як у вадзе затанула. Пазабіраў нехта. Ды так спрытна гэта зрабіў, што адны толькі сьвіньнячыя сьляды на зямлі пакінуў. Тут дзе-хто адразу дагадваўся, чыя гэта работа, але-ж, калі не злавіў за руку, не кажы, што злодзей. Хоць отдзе, хлопча, хто яго ўжо й ведае, ці дрэнна гэта. Бо Маскалю гэткая вялізная крыўда яго братамі была зроблена, што за яе яны, мо‘й варты да торбы дайсьці, а ні то, што бяз порця застацца. Падумай толькі, ўсялякае права на зямлю ад Маскаля родныя браты яго адабралі дый за што? Ось, так сабе. За тое мусі, што пятнаццаць гадоў у маскалёх служыў. Вось дзеці маскалёвы пасьля й помставалі дзядзькам сваім, як толькі маглі.

— Але, як-жа гэта хто даведаўся, што Мацей порце дзядзькава пабраў,—спытаўся я ў старога Сымона.

— А вельмі проста, хлопча,—сам Мацей, як падрос, да розуму дайшоў, дык і расказаў, жартуючы, таварышом пра ўсё, а тыя далей расказалі, вось і даведаліся ўсе, але шмат тады ўжо прайшло часу.

— А нашто-ж гэта і як сьвіньнячыя сьляды на падворку былі пароблены,—спытаўся я аб неяснай для мяне рэчы.

— Ого! ў тым вось і штука хітрая, хлопча, што сьляды сьвіньнячыя на падворку былі пароблены

таў запрасіла прэм'ер-міністра Панікоўскага на зьезд акадэміцкае моладзі ў Вільні.

— Адзінаццаць польска-нямецкіх камісіяў приступілі да працы ў Катовіцах.

— У Ключбэргу адбылося сьвята, падчас якога гаварыліся манархічныя прамовы; аратары пагражалі рэваншам і адабраньнем ад Польшчы часткі Верхняе Сьлезіі.

*Панядзелак,* 12 *сьнежня.*

— „New-Jork Herald“ перадае з Дубліна, што калі павадыр ірляндцаў дэ-Валера й надалей ня будзе приступаць на згоду з Англіяй, дык падасца ў адстаўку і зьвернецца да народнага рэфэрэндуму.

— Аг. Вольфа паведамляе, што францускі прэм'ер Брыян яшчэ перад сьвятамі выедзе ў Лёндан на конфэрэнцыю з Лёйд-Джорджам.

— Як аблічыў міністар фінансаў, дэфіцыт Польшчы за бягучы год дасягае 180 мільярдаў, які мае быць пакрыты дзяржаўным падаткам.

— У конституцыйнай камісіі польскага сойму прынята некалькі артыкулаў законапроекту аб адносінах дзяржавы да эвангэліцкае царквы.

— Рэвалюцыйны камітэт Грузіі прыказам № 79 абвясьціў бязьлітасную барацьбу з паўстаньнямі, якія ў Грузіі прынялі характар звычайнага зьявішча.

— Сэрбскі прэм'ер-міністар Пашыч падаўся ў адстаўку са ўсім коаліцыйным кабінэтам. Кароль даручыў стварэньне новага кабінэту дэпутату Давідовічу.

— Бальшавіцкі дэлегат у Англіі Красін выступаў у Оксфодзкім унівэрсытэце з лекцыяй аб барацьбе з голадам. Красін заявіў, што пакуль Эўропа ня прызнае савецкага ўраду, які ўжо чатыры гады істнуе і пакуль немагчыма зрабіць міжнародную пазычку для Расеі, дык проблема падмогі галодным не разьвяжацца.

— Згодна з апошнімі весткамі з Парыжа, Англія згодзіцца адпусьціць Нямеччыне крэдыт, калі бюджэт нямецкі ўрэгулюецца.

*Аўторак,* 13 *сьнежня.*

— Вашынгтонская конфэрэнцыя апублікавала фармальнае рашэньне аб заключэньні трактату паміж Амэрыкай, Англіяй, Японіяй і Францыяй аб забесьпячэньні агульнага міру, правох падпісаўшых дагавор старонаў на іх землі і ўмацаваньні збройных сілаў. Срок згоды—10 гадоў.

— Рада Лігі Народаў зьбярэцца 10 студня 1922 г. ў Жэнэве.

— Як паведамляюць амэрыканскія палітычныя кругі, прэзыдэнт Гардынг рашыў запрасіць Нямеччыну на вашынгтонскую конфэрэнцыю.

— Павадыр Ірляндыі дэ-Валера выказаўся проці прынятку англа-ірляндзкага дагавору.

— У Чыкаго пачаліся непарадкі, да якіх дачыніліся 100 тысяч чалавек. Паліцыяй забіта 9 чалавек.

— Аўстрыйскі ўрад протэстуе проці назначэньня плебісцыту ў Шопроні на 14 сьнежня.

— Пашыч адмовіўся зложыць новы сэрбскі кабінэт.

— Крэдытны зямельны банк у Базэлі (Нямеччына) збанкрутаваў і перастаў плаціць.

— Паводлуг даных міністра фінансаў за 1921 г. Нямеччына мае 161 мільярд 241 мільён дэфіцыту.

— Бальшавікі караюць рабочых, калі тыя адпачываюць ад працы ў сьвяточныя дні.

— З Масквы паведамляюць, што ў Ірбіце аднаўляецца Ірбіцкі кірмаш. Час адчыненьня кірмашу ранейшы — з 21 студня да 1 сакавіка. На кірмашы будзе адбывацца купляньне і продаж галянтэрэйных, скураных і іншых тавараў.

*Серада,* 14 *сьнежня.*

— Літоўскі ўрад замерваецца афіцыяльна заявіць, што ён ня прызнае рэзультатаў консультацыяў насяленьня ў віленскі сойм і ня будзе лічыць віленскае пытаньне вырашаным.

— Ангельскі кабінэт выказаўся за мораторыюм для Нямеччыны з варункам гарантыі, што яна ня будзе выпушчаць новых банкнотаў.

— Гардынгу запрапанована пасьля вашынгтонскае конфэрэнцыі склікаць новую агульную конфэрэнцыю па эканамічных пытаньнях.

— Назначэньне гэрцога Іоркскага ірляндзкім губэрнатарам спаткана ў Дубліне з задаваленьнем.

— У Варшаву прыбыў п. Забержоўскі, Гэнэральны камісар па выбарах у віленскі сойм.

— Нямецкі канцлер заявіў, што фінансавае палажэньне Нямеччыны выясьніцца ў бліжэйшыя дні.

— Газэты паведамляюць, што ў нямецкай камісіі экспэртаў па сьлезкіх пытаньнях паўсталі непаразуменьні. У зьвязку з гэтым адзін з экспэртаў падаўся ў адстаўку.

— Француская газэта „Ere Nouwelle“ зьмясьціла протэст літоўскага ўраду проці дэкрэту гэн. Жэлігоўскага аб выбарах.

— Адносіны паміж савецкаю Расеяй і Фінляндыяй ізноў пагоршыліся. Бальшавікі паслалі фінам ультыматум, трэбуючы пакінуць падтрымліваць карэльскіх паўстанцаў.

— Лацьвіяй вызначана дэлегацыя, якая выяжджае ў Бэрлін дзеля падпісаньня гандлёвага дагавору з Нямеччынай.

— Дэлегацыя сыяністых была прынята прэзыдэнтам Амэрыканскіх Злучаных Штатаў Гардынгам, а пасьля яна адведала Бальфура. Абгаворана была справа эміграцыі жыдоў у Палестыну.

— Маркіз Дэльля Торэта выступіў у італьянскім парлямэнце з тлумачэньнем аб гандлёвых перагаворах з савецкім урадам. Міністар зазначыў, што прадстаўнік савецкага ўраду кіраваўся да таго, каб перагаворы мелі больш палітычны, чымся эканамічны характар.

— Старшыня саветаў Калінін выказаўся аб павялічэньні ваеннае моцы Расеі, каб процістаяць Польшчы.

— У канцы сьнежня ў Маскве мае адбыцца IX зьезд саветаў.

— Францускі літэратар Анатоль Франс заявіў, што ён ніколі ня быў камуністым і памыліўся, лічачы раней магчымым правядзеньне ў жыцьцё асноваў камунізму.

— З Гэльсынгфорсу паведамляюць, што ў Карэліі зьнішчана савецкая ўлада.

— На расейска-фінляндзкай граніцы адбылася спатычка паміж пагранічнымі савецкімі аддзеламі й фінскімі войскамі.

— У Бэрлін ізноў прыехалі прадстаўнікі Швэцыі дзеля перагавораў з нямецкім урадам. Аб чым маюць быць перагаворы невядома.

*Чацьвер,* 15 *сьнежня.*

„Danz. Ztg.“ паведамляе, што літоўскі міністар заграінчных справаў Пурыцкіс падаўся ў адстаўку.

— Ваенны прадстаўнік Польшчы перадаў савецкаму ўраду ноту з прычыны ўлучэньня польскіх ваеннапалонных у армію Будзеннага. У выпадку спраціўленьня няшчасныя зьнікаюць бясьследна. Нота трэбуе сьледзтва і кары для вінаватых а таксама паведамленьня польскага пасольства аб лёсе ваеннапалонных.

— Ашкіназі ў суботу выяжджае з Варшавы ў Парыж і Жэнэву па справах Лігі Народаў.

— Літоўскі Сойм вынес рэзалюцыю аб Клайпэдзе, прызнаючы, што аб'яднаньне Клайпэды з Літвою патрэбна для абедзьвюх старонаў.

— Фінляндзкі ўрад зьвярнуўся з просьбаю да Лігі Народаў, каб умяшалася ў спрэчку паміж насяленьнем Карэліі і савецкімі ўладамі.

— Ангельскі парлямэнт ратыфікаваў згоду з Ірляндыяй.

— Лёнданскія газэты выказваюць надзею, што ірляндзкі парлямэнт большасьцю 43 галасоў выкажацца за згоду з Англіяй.

— Вашынгтонская конфэрэнцыя прыняла пастанову аб незалежнасьці Кітайшчыны.

— „Prz. Wiecz.“ перадае, што апошнімі днямі адбыліся ў Варшаве міжміністэрыяльныя нарады аб польскай палітыцы на ўсходніх акраінах. Два апошнія паседжаньні займаліся спэцыяльна беларускім пытаньнем,

— Аўстрыйскі прэзыдэнт д-р Гайніш выяжджае ў Чэхаславакію дзеля спатканьня з прэзыдэнтам Масарыкам.

— Румынскі міністар загран. справаў Такэ Іонэску і міністар справядлівасьці падаліся ў адстаўку. Магчыма, што за гэтымі міністрамі ў адстаўку пойдзе ўвесь кабінэт. Стварэньне новага кабінэту найхутчэй што будзе даручана Такэ Іонэску, ці гэнэр. Аврэску.

— Камісарыят справядлівасьці сав. Украіны абвясьціў, што ў Украіне маюць сілу толькі тыя дэкрэты маскоўскага ўраду, якія зацьверджаны ўрадам сав. Украіны.

---

ды як спрытна. На какошках дзеравяных, а ня проста нагамі Мацей па дзядзькавым падворку пахадзіў, калі порце краў, а ногі сьвінячыя спрытна былі на концах какошкаў павырэзваны, вось і адбіліся сьляды ад іх на зямлі. Ну, быццам якраз, як сьвіньня й сапраўды. І сьмешна і хітра было гэта, хлопча. Але вось заўсёды яно гэтак само наверх усё вылазіць.

Хоць я й не шкадаваў ані, што некалі Мацей маскалёў можа з вялікае злосьці на свайго дзядзьку порце пакраў з яго падворку, але тут-жа выказаў старому Сымону сваю думку быццам я дагадваюся аб тым, што ўсе нязвычайныя штукі й цяпер вычаўпляюцца ня іншым кім, як толькі маскалёвым Мацеем, прывыкшым з малых гадоў спрытна красьці.

Я выказаў Сымону думку, што напэўна гэта Мацей нядаўна, наклаўшы на твар маску, дзяўчат у лесе насьмерць перапалохаў, калі яны зьбіралі ягады. Ды вось і лясьнічаму нехта ўвечары тыдняў тры таму ў вакно стрэліў.

— Э! не скажу табе, хлопча, каб Мацейі цяпер яшчэ блазнам застаўся. А, ўрэшце, ліха яго ведае. Неспакойныя часы цяпер, хлопча, сацылістыя розныя бунты робяць, забастоўшчыкі ды аратары па вёсках ходзяць, паноў, кажуць, трэба душыць, як яны некалі бацькоў ды дзядоў нашых душылі, ў паншчыне трымаючы. А даўней, хлопча, ня тое зусім было. Спакайнейшыя нейкія людзі былі, ці што. І паны права занадта ўжо нялюдзкае над намі мелі і зьдзек рабілі няраз, але-ж трывалі нейк. Мусі ўжо Бог так даў, што адзін жыве на сьвеце панам, а другі мужыком. Паглядзі, вось, лес расьце: баравы—ён стромкі й высокі ды чысьценькі такі, а багнавы—карчасты, крывы ды нізенькі, каравы нейкі. Гэтак вось і людзі мусі, бы лес гэты, няроўнымі на сьвет прыходзяць, няроўна жывуць, няроуна й паміраюць...

Дзядзька Сымон змоўк і задумаўся. Маўчаў і я, бо хаця й вычытаў у кніжцы аднэй, што людзі няроўнымі штучна робяцца, але пераконваць у гэтым старога дзядзьку Сымона не пасьмеў, бо лічыў, што не магу я, малы хлапец, вучыць яго навет і тады, калі ён можа й памыляецца.

Падумаўшы крыху, дзядзька Сымон раптам нібы спомніў і пра нябожчыка Сямёнчыка, сярэдняга маскалёвага сына.

— А і Сямёнчык, вечны пакой яго душачцы, часта рабіў прыкрасьці свайму дзядзькаві Тодару, з якім маскалёва хата найбліжэй суседуе. А ў Тодара, хлопча, гаспадарка йшла, о-ёй, як добра! Сады, якія засталіся, яшчэ й цяпер карысныя, хоць і пастарэлі ўжо. Вось па ўсім беразе рэчкі, ад хаты аж да сенажаці, што па старым звычаі выганам завецца, толькі яблыні ды грушы розных гатункаў стаяць. Ой, ні ў кога з суседзяў няма гэткіх садоў ды гародчыкаў!

Вось летам усе гэтыя грушкі ды яблынкі аж над самай вадою зьвісалі, ня могучы трымаць на сваіх галінах багатага ўраджаю. А Сямёнчык, бывала, набярэ калоў ды каменьняў, стане на другім баку рэчкі ды пачне шпургаць імі па грушках ды па яблынках. Грушы й яблыкі плывуць за вадою, а ён іх ловіць каля мосту. А на аднэй яблынцы, што цяпер яшчэ зусім пахіліўшыся над вадою зьвісае, куры Тодарысіны любілі начаваць. Сямёнчык раненька чуць сьвет пачне, бывала, абкідаць і іх каменьнямі. Як патрапіць якой у галаву, дык яна — гоп у ваду з яблыны, а з вады Сямёнчык яе выцягне ды да хаты на крупнік нясе. Шмат гэтак курэй згінула ў Тодарыхі. І няхутка даведалася яна, які гэта мор на іх напаў. Вось, хлопча, я ніяк не разьбяруся, чаму гэта маскалёвы дзеці гэткімі дзіўнымі павыходзілі. Ня йначай гэта праз тое, хлопча, што без работы расьлі яны. Ведама-ж без зямлі бацькі іх засталіся. Дый цяпер, вось, Мацей бадзяецца ўсё лета без работы ды ўсё шукае, бы ветру ў полі, забастоўшчыкаў розных, сацылістых. Паехаў-бы лепей у Амэрыку, чалавекам стаў-бы, а можа й грошай праз гадоў дзесятак гэтулькі зарабіў-бы, што й на дзядзькоў сваіх нябожчыкаў злаваць ня трэба было-б. Дый людзі, хлопча, пакінулі-б яго злодзеем хрысьціць. А так, часы цяпер неспакойныя, яшчэ начаўпе чаго ды змарнуецца ў якім-нібудзь вастрозе, калі на шыбеніцы не павесяць. Яно, хлопча, бяда без зямлі нашаму брату мужыку: а ні жаніцца, а ні тапіцца, як той казаў.

Дзядзька Сымон змоўк і моцна задумаўся. Задумаўся тады і я малы, бо нядуж быў яшчэ зразумець, як беднасьць можа бэсьціць чалавечую душу.

Прайшло шмат часу. Я навучыўся разумець, што такое бедныя ахвяры социяльнай несправядлівасьці. І мне заўсёды прыходзяць да галавы ўспаміны аб маскалёвых дзецях, аб якіх я даўно-даўно чуў расказ сівога дзядзькі Сымона, празванага „панечкам“ і якіх я сам знаў, і іх горкую долю бачыў.

**Краўцоў Макар.**

(Канец).



